# Маладзёвы весьнік

№1(1) Верасень 1997 Выданьне Маладога Фронту


# Слова рэдактара

## ТОЙ ЧАС.

Беларуская моладзь, як і любая іншая, прагне рамантыкі. Як і любая іншая, хоча добра жыць.

Ёй абрыдлі сьлязьлівыя нараканьні на сёньняшняе жыцьцё, шморганьне носам пра "гаротную долю" й расповеды пра будучае шчасьлівае існаваньне (у якім, аднак, ня знойдзецца месца для эўрапейскай Беларусі). Яна трывае дубінкі, газ, турэмныя камэры, і ведае, дзеля чаго гэта робіць. Яна вучыцца гаварыць сваё "НЕ!" і сваё "ТАК!".

Ёсьць у нас адна істотная перавага: мы маладыя. Але з часам гэта мінае. На месца юнацкае рамантычнасьці прыходзіць ня толькі жыцьцёвы досьвед, але і сталая асьцярожнасьць. Таму - карыстайся момантам. Адстойвай сваю пазыцыю, будзь маладым і актыўным. Хто сказаў, што наш час - нецікавы?

Рабі краіну, сучаснасьць, будучыню. Рабі гісторыю. Гэта той час.

**Аляксей Шэін.**

## У НАШЫМ НУМАРЫ:



**Будзь разам з намі!**

## МАЛАДОМУ ФРОНТУ Ў ДНІ НАРОДЗІНАЎ

*Маладафронтаўцы!*
*Ваш голас чую*
*І перад вамі галаву схіляю.*
*Вы -*
*Незабытая надзея тая,*
*Што мусіць ратаваць*
*Зямлю сьвятую.*

*Зямля завецца*
*Беларусьсю нашай.*
*Яна як маці просіць заступіцца.*
*Хай лёс не абміне вас*
*поўнай чашай,*
*Дзе перамożцу дадзена напіцца.*

*Хоць да свабоды вузкая дарога,*
*Вам суджана*
*Яе зрабіць гасьцінцам.*
*І толькі той*
*Заслужыць ласку ў Бога,*
*Хто не дазволіць*
*Панаваць чужынцам.*

*Фронт Маладых,*
*З Народным Фронтам*
*Разам*
*У заўтра йдзі ў*
*Змагарніцкім хаўрусе!*
*Фронт Маладых,*
*Ты будзеш першым сказам*
*У гімне Незалежнай Беларусі!*

17 траўня, 1997



**Рыгор Барадулін**





# Рубон

## Ліст да беларускай моладзі

Дарагія хлопцы! Адзін вядомы амэрыканскі пісьменьнік напісаў: "Мужчына павінен змагацца за Бацькаўшчыну й за жанчыну." І гэта сьвятая праўда. Хто зьберажэ Бацькаўшчыну, той зьберажэ ўсё. Хопіць скардзіцца. Бо ворагам ня скардзяцца. З ворагамі змагаюцца ўсімі даступнымі сродкамі.

Расейскі імпэрыялізм і ягоная лукашысцкая хунта на Беларусі ўсталявалі акупацыйны рэжым. Яны вядуць вайну зь Беларускім Народам, зьнішчаюць беларускую дзяржаву, разбураюць нашую культуру, зачыняюць беларускія школы, топчуць беларускую мову й беларускія сымбалі, рабуюць эканамічныя багацьці краіны і зьдзекуюцца зь беларусаў.

Ужо сотні гадоў Беларусь змагаецца з Расеяй. Уся нашая гісторыя - гэта суцэльная вайна з Масквой. Цяпер Масква зноў лезе на нас. Расея зьяўляецца прычынай напружанасьці, тэрарызму й войнаў паўсюдна, дзе залазіць са сваёю палітыкай: на Каўказе і ва Ўсходняй Эўропе, у Сярэдняй Азіі і на Украіне ў Крыме, у Малдове й Грузіі, Чачэніі і Беларусі, у Аўганістане і Таджыкістане. Мэтады аднолькавыя: падрыхтоўка стаўленікаў, захоп улады, дзейнасьць спэцслужбаў, стварэньне пятае калёны, захоп друку, радыё, тэлебачаньня, зьнішчэньне нацыянальных сілаў, інсьпірацыя ўнутраных канфліктаў, разбурэньне эканомікі, захоп маёмасьці і аслабленьне дзяржавы, захоп тэрыторыі праз навязваньне розных саюзаў і дагавораў з Масквой.

Моцныя скансалідаваныя народы даюць адпор акупантам. Мы былі сьведкамі, як геройны народ Чачэніі змагаўся за свабоду і разграміў расейскую тэрарыстычную армію. Джахар Дудаеў перамог імпэрскую Расею. Слава Джахару Дудаеву! Расейцы заявілі, што на Беларусі возьмуць рэванш за паразу ў Чачэніі й зьліквідуюць ("інтэгруюць") нашую дзяржаву. Што ж, бандыцкія звычкі Крамля мы ведаем. Мы не аднойчы іх папярэджвалі: ня рушце беларусаў, бо будзеце бітыя. Ня лезьце ў Беларусь. Не паслухаліся. Тым горш для іх. Мы пераможам расейскіх акупантаў і іхную лукашысцкую хунту на Беларусі. І нашая перамога стане асновай міру й спакою ва Ўсходняй Эўропе, пачаткам канца й распаду пачварнае імпэрыі на ўсходзе. З намі будуць усе антыімпэрскія



сілы - усе народы: чачэнцы й дагестанцы, мардва й татары, калмыкі й башкіры, якуты й тувінцы, таджыкі й грузіны, - усе тыя, каго абрабавалі, зьняважылі новыя крамлёўскія цары-таўстасумы і цяпер разьзявіліся на нас. Паход на Беларусь стане для Масквы апошнім.

Пасьля лістападаўскага перавароту ў мінулым годзе, калі была спыненая дзейнасьць парламанту й Канстытуцыйнага Суду, тады скончылася й агульная антылукашэнкаўская апазыцыя, якая дамагалася імпічманту прэзыдэнта. Цяпер патрабаваць імпічманту бессэнсоўна, бо легітымныя органы ўлады ня дзейнічаюць, апэляваць няма да каго.

Ва ўмовах акупацыйнага рэжыму Беларускі Народны Фронт зьмяніў свой падыход і са сьнежня мінулага года прыняў новую тактыку й новую палітыку, накіраваную на разгортваньне нацыянальна-вызвольнага руху на Беларусі. Мы добра ўсьведамляем, хто наш вораг і дзе нашыя ідэалы, супраць каго мы выступаем і за што змагаемся.

Мы змагаемся з расейскай акупацыяй. Мы змагаемся з паліцэйскім рэжымам. Мы супраць імпэрскае Расеі й яе лукашысцкае хунты на Беларусі. Мы супраць дыктатуры.

Мы змагаемся за вольную, незалежную, дэмакратычную беларускую дзяржаву. За людзкае жыцьцё людзей.

Мы баронім незалежнасьць. Мы баронім чалавека. Мы баронім наш эўрапейскі лад жыцьця, нашу беларускую мову, нашу нацыянальную маёмасьць, наш беларускі бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня".

Што б не падпісаў, які б дагавор, які б хаўрус з расеяй не заключыў лукашысцкі рэжым, мы (і, мяркую, увесь сьвет) не прызнаем гэтых здрадніцкіх акупацыйных дамоваў, бо яны парушаюць Канстытуцыю Беларусі, а рэжым Лукашэнкі, яго структуры й дзеяньні не легітымныя.

Гэтак жа сама, як змагары ў Карэі, мы пасадзім лукашысцкіх здраднікаў у тыя ж камэры, у якія яны зараз заганяюць нашую моладзь. Мы пасадзім іх навечна за здраду Беларусі й зьдзек над беларусамі. Яны карыстаюцца безабароннасьцю нашых людзей на вуліцах і, узброеныя да зубоў, нападаюць, каб зьбіць і зацягнуць у турму. Пара стварыць самаабарону й вызвольную сілу. Ня будзе пачвара пляваць нам у твар.

За здраду Беларусі, народу й Канстытуцыі, за спробы й дзеяньні запрадаць Беларусь Расеі мы павінны патрабаваць адстаўкі прэзыдэнта і адмаўленьня яго ад пасады. Беларускае грамадзтва павінна рыхтаваць арышт гэтага ўзурпатара дзяржаўнае ўлады й не чакаць, што нешта зробіцца само сабой. Узурпатар будзе арыштаваны.

Адразу будзе адноўлены прававы мэханізм і праведзеныя выбары ў парлямант. Не сумняваюся, што новы парлямант адновіць разбуранае заканадаўства й скасуе прэзыдэнцкую пасаду (каб не зьяўляліся іншыя лукашэнкі). Будзе ўсталяваная парляманцкая рэспубліка на прынцыпах эўрапейскага парлямантарызму. Будуць скасаваныя ўсе ўказы, дэкрэты й распараджэньні ненавіснага рэжыму, усе ягоныя антыдзяржаўныя, антыканстытуцыйныя дагаворы й пагадненьні па ўсіх накірунках. Будуць адмененыя вынікі ганебных, незаконных і сфальшаваных рэфэрэндумаў, вернутыя беларускі сьцяг і герб "Пагоня", беларускія вышэйшыя вучэльні, беларускія школы й беларускія падручнікі, беларускае радыё й тэлебачаньне, беларуская мова ў





дзяржаўным ужытку.
Выключаныя вучні й студэнты - усе тыя, што пацярпелі ў барацьбе за свабоду Беларусі, - будуць зноў вернутыя ў вучэльні з гонарам і матэрыяльным ашкадаваньнем за кошт дзяржавы. Ніхто ня будзе больш беспакарана зьневажаць чалавека й біць людзей па галовах. Працягнуцца рэформы, пачне дзейнічаць і разьвівацца прадпрыймальніцтва, упарадкуюцца нармальныя падаткі, усталюецца сацыяльная абарона й дэмакратыя, адновяцца нармальныя міжнародныя сувязі, адчыніцца шлях да эўрапейскага разьвіцьця.

Але за гэта трэба змагацца. Мы ніколі ня пойдзем разам з Масквой і ніколі ня будзем зь імпэрскай Расеяй. Мы не застанемся ў СНД, ня будзем гуляць у крамлёўскія "саюзы". Нашыя інтарэсы - у нашай вольнай, незалежнай Беларусі, а не ў крымінальнай Расеі. Наш шлях - вяртаньне ў Эўропу.

* * *

Дарагія хлопцы й дзяўчаты! Вы пераканаліся на ўласным вопыце, што ў Беларусі ўстаноўлены прарасейскі й менавіта акупацыйны рэжым. Арышты й паляваньне лукашысцкіх бандытаў, амону й сьпецназу на тых, хто гаворыць на вуліцах па-беларуску, "зачысткі" тэрыторыяў ад людзей, аблавы й напады на ўсіх падазроных, зьверскае зьбіцьцё дзяцей, жанчын, старых, поўнае бясправуе і беспакаранасьць спэцслужбаў калгаснага дыктатара. І ўсё ў масавых маштабах - татальнае сачэньне за актыўнымі беларусамі, татальнае запалохваньне студэнтаў і выкладчыкаў, масавыя хапуны й асаблівая жорсткасьць, у якой выяўляецца зьвярыная нянавісьць да ўсяго беларускага - вось што вы бачыце штодня, адчуваючы гэта на сваіх душах галовах і сьпінах, вось што вы маеце, жывучы на сваёй роднай, зьнявечанай зямлі. Такія дачыненьні да людзей практыкуюць толькі акупанты.

Ці доўга ўсё гэта мусім трываць?

Вядомы беларускі філёзаф і змагар, былы партызанскі камандзір Мікола Крукоўскі расказваў мне, як ён стаў ваяваць з фашыстамі. Яму было 18 гадоў. У вёску прыехалі немцы й пачалі зьбіраць людзей на сход. На вачох юнака і ягоных сяброў жаўнеры Вэрмахта каванымі ботамі высьпяткам ударылі беларускіх жанчын, зганяючы іх да грамады. "Мы пераглянуліся між сабой, - кажа Крукоўскі, - усё стала зразумела." Гэтага ж дня хлопцы пайшлі ў лес і да канца акупацыі размаўлялі з Вэрмахтам на мове аўтаматаў.

Зрэшты, якая б не была мяжа цярпеньня, чалавек павінен бараніць Бацькаўшчыну, змагацца за яе. Нармальны чалавек не даруе, каб акупанты зьдзекваліся з жанчын.

Вядома, што нашыя лютыя ворагі, ненавісьнікі беларускае нацыі, незалежнасьці й свабоды, ня спыняцца ні перад чым, як не спыніліся яны ў Чачэніі. Тым больш страшнай будзе іхная параза й іхні канец. Мы мусім хутка рыхтавацца да вялікай усеагульнай барацьбы зь імпэрскай Расеяй. Мы павінныя паглыбляць і пашыраць нашае грамадзянскае змаганьне з рэжымам на ўсе сфэры жыцьця. Трэба перастаць выконваць антызаконныя загады й распараджэньні хунты. Дыктатуры вар'ята й расейскіх кадэбістаў супрацьпаставіць масавае грамадзянскае непадпарадкаваньне. Акупанты заганяюць арганізаваных людзей і свабодны народ у падпольле. Тым горш для хунты. Падземны, нябачны Фронт павінен дзейнічаць яшчэ больш эфэктоўна й пагрозьліва для рэжыму, чым адкрыты Народны Фронт. Зямля павінна гарэць пад нагамі хунты. Куды б ні ўпіралі яны свае шалёныя вочы, усюды б здавалася ім: акупантам сьмерць і Жыве Беларусь!

Нават у шэлесьце ветру, у шоргаце нарабаваных грошай ім чулася б: здраднікам суд! Нават на дне кілішка чыталася б ім: да пары пі, здраднік, пі!

Гандаль нацыяй і здрада Бацькаўшчыне не даруецца.

Я хацеў бы таксама перасьцерагчы. Ня слухайце тхароў. Тых, хто гатовы ўсім дараваць чужы боль, нават гвалтаўнікам. Тых, хто згаджаецца з гвалтам, нявольніцтвам і зьдзекам, абы не было "вайны". Тых, хто атрымаўшы палкай па гарбе, паўтарае, як заведзены, што ён "не против объединения, но с Россией демократической".

Ня слухайце гэтых рабоў. Здаровыя людзі змагаюцца за свабоду народа, а не аб'ядноўваюцца з ворагамі. Яны шануюць гонар і бароняць Айчыну, калі трэба, са зброяй у руках.

У Расеі няма праціўнікаў захопу Беларусі, няма сяброў нашай незалежнасьці. Яны спрачаюцца паміж сабою толькі аб мэтадах захопу ("інтэграцыі") і аб уладзе над намі.

Гартуйма сілы. Ёсьць шмат магчымасьцяў у вольных людзей наладзіць акупантам і Воршу, і Улу, і Магільна, і партызанскае пекла. Чачэнія ім здасца раем. Гартуйма наш вызвольны рух. І не майма ілюзіяў, як тыя лібэральныя ідыёты, што абплёўвалі Народны Фронт (фи, экстрямисты!) і лезьлі сьлепа ў Маскву. Цяпер Масква таўчэ іх тварам аб асфальт, не зважаючы на лаяльнасьць. Калі б Расея, ня дай Бог, канчаткова зьнішчыла наш сувэрэнітэт і ўмацавалася б - тут бы яны зьліквідавалі ўсё: і беларускую маёмасьць, і школы, і культуру, і беларусаў. Быў бы гулаг, было б і звыш гулага. Тады ўжо позна "расплюшчваць" вочы.

Канец акупантам! Канец імпэрыі зла!

Канец ворагам Беларусі!

Жыве Беларусь! Жыве вечна!

Жыве беларускі вызвольны рух!

Слава беларускім героям!

5 красавіка 1997 г.

**Зянон Пазьняк**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"**




Наш прэзыдэнт - Пазьняк, а ня нейкі вусаты дзядзька з-пад Шклова - так лічыць большасьць менскае моладзі.



# Тэхналёгія Адраджэньня

## 1.Час: пакуль за нас.

Дзякуй Богу і прэзыдэнту: час пакуль спрыяе. Маладая нацыя ў апазыцыі да састарэлага народу. Маладая нацыя хоча "Беларусь у Эўропу". І вы толькі ўявіце сабе тое прадоньне, тую катастрофу, калі да ўлады прыйдуць Нармалёвыя Людзі! Ды моладзь хуценька пазбавіцца цяперашняга напружанага грамадзянскага тонусу, а гэта – немінучая дыстрафія маладзёвае палітыкі. Час наш, час зорны, час дзейнічаць!

## 2. Патэнцыял: гэта нашы.

Пэўны зарад адраджэнцкай энэргіі ў сёньняшняе моладзі акумуляваны: гістарычны лікбез, дзьве беларускія вясны— 96, 97, некаторыя дасягненьні Беларусі як краіны і пастаянна наструненыя радкі незалежных газэтаў. Да нас мае сымпатыі большасьць актыўных маладых людзей, прычым сярод школьнікаў працэнт адчувальна вышэйшы.

## 3. Супраціў: расейскі дуплет.

Няспынную нэўтралізацыю нашага патэнцыялу зь пераменным посьпехам вядуць лукашысты й дэмакраты. Прэзыдэнцкая хэўра спалучае пугу і пернік (прычым, першае – застрашваньне – дае куды большы плён, чым другое – грашовыя падачкі, канцэрты, футбольныя шоў), а "грамадзяне" й астатнія сацыялісты зазываюць маладых спалучаць прыемнае (звыклая арыентацыя на Маскву) з



карысным (эканомікай, Чубайсам, здаровым сэнсам, бясьпечным сэксам і г.д.)

## 4. Мы : ня верым.

Шмат хто з нас ня верыць у Адраджэньне сёньня. Маўляў, "ім усё пофіг". Правільна, моладзі ўсё пофіг, апроч, скажам, "мэталікі". Або апроч турынскага "ювэнтуса". Апроч Толкіна. Апроч жуйкі, нарэшце. Дык утыркні яму ў вушы "NRM", сунь у рукі "Прэсбол", запіхні ў ранец Арлова, потым ён сам прыйдзе да цябе й папросіць чаго яшчэ. Трэба верыць у тое, што ты робіш: толькі тады ты будзеш героем.

## 5. Героі: час ды-джэяў.

Называць героямі моладзі выпендранага паўпаэта ці дзякападобнага аматара піва асабіста мне сорамна. Ціхія героі – тыя, хто сумленна робіць і дбае — яны, канешне, малойцы, але паводле сваёй натуры ня лідары. У гэткім выпадку, калі ані скандалісты, ані анёлы, ані працаўнікі ня здольныя скрышталізаваць моладзь, на першы плян выступаюць ды-джэі. Людзі, якія ўмеюць выгукнуць, падняць на рогат усю грамаду, прымусіць аднагодкаў танчыць да згубы пульса лёгкім шчыканьнем экваляйзэра. Нам тэрмінова патрабуюцца ды-джэі Адраджэньня.

## 6. Нарэшце, ноў-хаў.

Першы этап. Станаўленьне агульнабеларускай арганізацыі і з'езд маладых адраджэнцаў. Структураваньне менскіх і рэгіянальных суполак на камісіі: спартовую, культурніцкую і іншыя.
Другі этап. Шырокая рэклямовая кампанія ў незалежнай прэсе, на вуліцах і ў школках, нарошчваньне масы адначасна з мэтавай сэлекцыяй патрэбных спэцыялістаў.
Трэці этап. Стварэньне сыстэмы пунктавых ці пульсуючых акцыяў у тугіх маладзёвых вузлах, у найбольш спрыяльных асяродках: школках, ВНУ, інтэрнатах.

- **спартовыя сэкцыі, гульні,турніры.**
- **дыскатэкі,конкурсы, віктарыны.**
- **канфэрэнцыі й сэмінары.**
- **замежныя турнэ.**
- **выязныя агітбрыгады**

Карацей – эфэктоўныя,відовішчныя, карысныя мерапрыемствы з гучным прэс-рэхам, з абавязковым распаўсюджваньнем газэтаў, кніжак, касэтаў, кветкоў на канцэрты...
...Вось і ўсё, што трэба зрабіць. Ну, зразумела, калі ты хочаш, атрымаўшы выпадковага штурхаля ў тралейбусе, пачуць не п'янае "ты чё тут?!", а элемэнтарнае "выбачай". Тым больш, калі ты хочаш езьдзіць не ў тралейбусе, а на ўласнай машыне. Як натуралёвы эўрапеец.

**Павал Севярынец.**
Сустаршыня Маладога Фронту

# Кроніка падзеяў

**14 лютага,** ў дзень Сьвятога Валянціна, адбылося маладзёвае шэсьце "Беларусь у Эўропу", арганізатарам якога быў Малады Фронт. Удзельнікі акцыі наведалі амбасады Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі,ФРГ,ЗША, павіншавалі амбасадараў са сьвятам і ўручылі ім пэтыцыі.



У дакуманце беларуская моладзь зьярталася да ўладаў эўрапейскіх краінаў ды іх амбасадараў "з просьбай прыкласьці ўсе магчымыя намаганьні дзеля як мага больш хуткага ўваходжаньня Беларусі ў задзіночаньне Эўрапейскай цывілізацыі" й заклікала "супрацьстаяць памкненьням пракамуністычных і шавіністычных уладаў Масквы, падтрымаць маладзёвы і студэнцкі рух у абарону дэмакратыі, правоў чалавека, традыцыйных эўрапейскіх каштоўнасцяў".

Сама акцыя пачалася а



17-ай гадзіне на пляцы Волі й сабрала больш за тры тысячы ўдзельнікаў. Моладзь пад чырвона-белымі сьцягамі і з воклічамі "Жыве Беларусь!", Беларусь - у Эўропу!", "Незалежнасьць!" рушыла да амбасады Францыі. Неабходна зазначыць, што ў адрозьненьне ад ранейшых мерапрыемстваў, шэсьце сапраўды выглядала сьвяточным і эмацыйным. У амбасадах Францыі, Вялікабрытаніі й Італіі прадстаўнікоў моладзі - лідараў МФ БНФ Паўла Севярынца і Яўгена Скочку - прымалі самі амбасадары. Каля амба-садаў ЗША і ФРГ знаходзіліся шчыльныя міліцэйскія кардоны, таму моладзь вымушаная была перадаваць пэтыцыі проста на вуліцы.



Арышты ўдзельнікаў акцыі былі зафіксаваныя ўжо каля амбасады ФРГ, аднак сапраўдны "хапун" распачаўся на рагу вуліцаў Варвашэні і пр. Скарыны. Супрацоўнікі міліцыі прымянялі дубінкі, электрашокеры, сьлезацечны газ, а хлопцы ў цывільным выхоплівалі й запіхвалі ў спэцыяльныя машыны маладых людзей, жанчын і непаўналетніх. Усяго за ўдзел у шэсьці было затрымана каля двухсот чалавек.

**2 сакавіка** тысяча мінчукоў адзначылі 930-годзьдзе Менску.



Сьвяточны канцэрт, на якім была паказаная гістарычна-сучасная драма "Цар Аляксашка", адбыўся ля Опэрнага тэатру. Міліцыя некалькі разоў спрабавала сканфіскаваць лялек - галоўных дзеючых асобаў відовішча.

Пасьля сканчэньня акцыі машыну, у якой знаходзіліся сакратар управы БНФ В.Сіўчык, былы дэпутат ВС Б.Гюнтэр і В.Каролік, блякавалі дзьве міліцэйскія машыны і дзьве - без нумароў і суправадзілі да будынку Цэнтральнага РАУС. Праз тры гадзіны без прад'яўленьня якіх-небудзь абвінавачваньняў усе трое былі адпушчаныя.

Калі канцэрт завяршыўся, больш за тысячу чалавек рушыла праспэктам Скарыны да плошчы Незалежнасьці, дзе маладыя зрабілі кола гонару. Каля трыццаці людзей было затрымана. Затрыманьні праводзіліся ўласноўным на станцыі мэтро "пл.Незалежнасьці".

*Працяг на наст. старонцы*

**14 сакавіка** Малады Фронт плянаваў правесьці акцыю пад лёзунгам *"Беларусь у Эўропу-2!"*



Але на гэты раз імпрэзу ўдалося задушыць яшчэ ў самым пачатку.

Мноства аўтобусаў і грузавікоў зь міліцыяй, АМАПам і спэцназам акружылі пляц Волі (месца збору) яшчэ за некалькі гадзінаў да акцыі. Была зачыненая станцыя мэтро Няміга.

Затрыманьні пачаліся прыкладна ў 16.30. Спачатку хапалі толькі найбольш актыўных удзельнікаў. Каля ГУМу людзьмі ў цывільным быў затрыманы лідар МФ Павал Севярынец. В 17.00 супрацоўнікі сілавых структураў – якіх было ў некалькі разоў больш, чым дэманстрантаў – затрымлівалі ўсіх: журналістаў (былі затрыманыя карэспандэнты газэтаў "Свабода" А. Невяроўскі, А. Дашчынскі "Белорусская газета" Р. Якаўлеўскі, "Свободные новости - плюс" С. Маліноўскі, "Здравый смысл" П. Карназыцкі і інш.), супрацоўнікаў Гельсінскага камітэту, грамадзянаў ФРГ, ЗША, дзяцей ва ўзросце 12-13 гадоў.



Гэтая акцыя набыла шырокі грамадзкі розгалас дзякуючы жорсткім мерам з боку улад.

**23 сакавіка** БНФ правёў у сталіцы шматтысячнае шэсьце й мітынг, прысьвечаны 79-м угодкам БНР.

Улёткі, прымеркаваныя да гэтай падзеі, утрымоўвалі заклік сабрацца на плошчы Незалежнасьці. Але ўжо з самай раніцы падыходы да яе былі перакрытыя ўзмоцненымі кардонамі міліцыі і АМАПу. Станцыя мэтро "пл. Незалежнасьці" была зачыненая. Нягледзячы на прапановы супрацоўнікаў міліцыі, людзі не зьбіраліся разыходзіцца. Праз некаторы час АМАПаўцы зрабілі першую спробу арыштаваць некалькіх чалавек. Аднак атрымалі ў адказ нечакана жорсткі адпор. Відавочна, што бясконцыя арышты й тэрор з боку рэжыму ўнесьлі карэктывы ў паводзіны дэманстрантаў — на сілу яны пачалі адказваць сілай.

Першая атака сьпецназу адбылася каля будынку КДБ. Вялікая колькасьць людзей (калі іх можна так назваць) у шлемах, з дапамогай дубінак урэзалася ў натоўп дэманстрантаў і расьсекла калёну на дзьве часткі. Паралельна з гэтым каля дзясятка ўдзельнікаў было схоплена.

У раёне вуліцы Казлова дэманстрантаў зноўку заатакаваў сьпецназ. Завязалася жорсткая бойка, вынік якой быў таксама маласуцяшальным для сілаў парадку. Каменьнямі й кавалкамі лёду былі выбіты шыбы ў міліцэйскіх аўтобусах і спэцмашынах, пацярпела больш за дзесяць міліцыянтаў.

Пасьля мітынгу ўлады пачалі традыцыйнае паляваньне на людзей. Было арыштавана звыш 100 чалавек.

Пасьля акцыі 23 сакавіка 17 афіцэраў міліцыі падалі заявы аб звальненьні.

***У ноч на 7 сакавіка ў Менску была праведзена акцыя "Горад – наш". Каля сотні бел-чырвона-белых штандараў зьявілася ў розных раёнах сталіцы. Над інтэрнатамі Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэта і Тэхналагічнага унівэрсытэта, на асьвятляльнай мачце стадыёна "Дынама", над жылымі дамамі мікраараёнаў Паўднёвы Захад, Малінаўка, Зялёны Луг і інш. луналі нацыянальныя сьцягі.***

**2 красавіка** адбылося шэсьце пратэсту супраць саюзу Расеі і Беларусі. У шэсьці прынялі удзел каля 5 тысячаў чалавек,



пераважна моладзь 12-30 год. Спачатку на плошчы Парыжскай камуны адбыўся мітынг, пасьля якога моладзь рушыла да расейскай амбасады, але там іх спыніў унушальны кардон сьпецназу - ажно ў шэсьць радоў. На бліжэйшых задворках стаяла тэхніка для перавозкі затрыманых. Моладзь зусім не паспела зарыентавацца, як на на іх накінулася АМАП і міліцыя, узброеныя шчытамі, дубінкамі, вялікімі кулакамі і цяжкімі ботамі. Білі яны без разбору, і зусім малых школяроў, што вярталіся дадому з вучобы, і старых, якія таксама выпадкова апынуліся на месцы падзеяў - выйшлі з дому купіць бутэльку малака ці які батон. Пасьля таго, як



менты пахапалі самых актыўных, пачаліся "зачысткі" раёна, калі зусім "левых" людзей забіралі ў кафэ, крамах, у транспарце. Аднак у гэты дзень і менты не засталіся безпакаранымі - восем чалавек былі параненыя, два з іх - у цяжкім стане. У гэты дзень былі затрыманыя каля 200 людзей, пераважна непаўналетніх. Супраць некаторых удзельнікаў шэсьця былі ўзбуджаныя крымінальныя справы, некаторым прыйшлося звярнуцца па дапамогу ў шпіталь.

**Падрыхтавала**
**Вольга Анцыповіч**

Далей будзе

*Яўген Скочка:*

# Не чапайце нас ...

Шмат хто зайздросьціць жалезным мускулам накачаных хлопцаў са спартовай камісіі, таму пра нас звычайна кажуць, што мы не цікавімся культурай, мастацтвам, гавораць, што нам толькі дай пабіцца з кім небудзь, а ўсё астатняе нас не цікавіць. Я хачу сказаць вам, што гэта няпраўда.

Канечне, я згодны, што каб даць пару разоў па галаве АМАПаўцу на якой-небудзь масавай акцыі, не абавязкова мець мазгі, але ўжо каб сысьці з гэтага мейсца жывым, трэба шмат думаць. Так што ўжо нават тут трэба мець трэніраваны розум.

Маленечкі прыклад з гісторыі: я думаю, што ніхто не зможа назваць неінтэлектуалам вялікага чалавека — князя Астрожскага.

Наконт культуры скажу толькі, што сябры патрыятычна-спартовай камісіі вельмі любяць менавіта нашую, беларускую культуру. Не буду прыводзіць



прыклады, таму, што проста не хопіць паперы.

Яшчэ хачу закрануць пытаньне, наўпрост зьвязанае зь сябрамі спартовай камісіі — масавыя акцыі. Зьяўляліся нават прапановы не праводзіць такія акцыі, ці праводзіць іх значна радзей. Зразумейце адно: вораг увесь час плянамерна наступае, зьнішчаючы Беларусь і ўсё беларускае, і калі мы ня будзем увесь час абараняцца, зьнікне Фронт, ён проста загіне. Калі загіне Фронт, загіне Беларусь. Час і колькасьць контратак не выбіраюць, гэта дыктуе вораг. Ці давайце спынім масавыя акцыі і зоймемся справамі, якія прапануюцца працаўнікамі масавых акцыяў, як чыста інтэлектуальныя. Тады праз пару месяцаў мы пабачым, як гэтых разумнікаў будуць расстрэліваць дзе-небудзь у Курапатах. Вось тады я, напрыклад, не варухну й пальцам, каб ім дапамагчы, бо самі будуць вінаватыя, дый пацягнуць за сабой шмат невінаватых. Таксама на акцыях людзі загартоўваюцца. Шмат хто палохаецца і сыходзіць, але застаюцца тыя, хто гатовы аддаць за Беларусь усё, у тым ліку й жыцьцё, якое яны аддадуць за значна большы кошт, чым нехта з нашых інтэлектуалаў, ці тых,хто любіць сябе імі называць.

Я проста хачу папрасіць нашых самых разумных сябраў — не чапайце нас, сябраў спартовай камісіі, таму што мы робім сваю справу, фактычна прыкрываючы вас сваімі сьпінамі.

**Жыве Беларусь!**

# Як далёка нам яшчэ да Беларусі...



У мінулую суботу, 6 верасьня, адбыўся Устаноўчы Сойм маладзёвае арганізацыі БНФ "Малады Фронт". У Менску сабраліся больш за 200 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі. У Доме Культуры танкасукнавага камбінату атмасфера была запраўды сьвяточнаю. Відаць, каля году вялася актыўная дзейнасьць Маладзёвай Фракцыі БНФ па ўзьяднаньні маладзёвых суполак, групаў і асобаў у адную структуру.

Пасьля адкрыцьця Зьезду беларускім гімнам часоў БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" у дакладзе лідэра Маладзёвае Фракцыі БНФ Паўла Севярынца былі акрэсьленыя асноўныя задачы стварэньня "Маладога Фронту", быў зроблены агляд працы МФ БНФ за ўвесь перыяд ейнага йснаваньня ад 1994 г.

Прамым доказам значнасьці падзеі зьяўляецца прысутнасьць на Устаноўчым Сойме Старшыні Вярхоўнае Рады РБ 13-га скліканьня Сямёна Шарэцкага, які раней пасьлядоўна адмаўляўся ад удзелу ў падобных мерапрыемствах БНФ. Сьпікер легітымнага беларускага парляманту выступіў перад удзельнікамі зьезду зь вітальнаю прамоваю.

Бельмі зьместоўны даклад у самым пачатку Сойму зрабіў першы каардынатар Маладзёвае Фракцыі БНФ Уладзімер Несьцер, што распавёў пра пачатковыя крокі нашае арганізацыі, пра ўнёсак актыву ейных заснавальнікаў у станаўленьне Фракцыі.

Важна, што Старшыня БНФ "Адраджэньне" Зянон Пазьняк не пакінуў Устаноўчы Сойм "Маладога Фронту" па-за ўвагай. У сваім прывітаньні, дасланым у Менск з эміграцыі, лідар беларускага нацыянальна-вызвольнага руху шчыра пажадаў плёну ў працы Сойму й посьпехаў у далейшае дзейнасьці на ніве змаганьня за вольную Бацькаўшчыну. На Устаноўчым Сойме "Маладога Фронту" выступалі шматлікія шаноўныя госьці, сярод якіх прадстаўнічая дэлегацыя з "Маладога Руху" на Ўкраіне. Таксама былі прадстаўнікі такіх маладзёвых арганізацыяў Беларусі як "Грамадзянскі Форум" і "Маладая Грамада", Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў.

Другое паседжаньне Сойму "Маладога Фронту" адкрылася хвілінаю жалобы у гонар вядомых беларускіх дзеячоў на эміграцыі Сьвятой Памяці Янкі Сурвілы (Канада), Лявона Луцкевіча (Летува) й Натальлі Арсеньневай (ЗША), якія адыйшлі на вечны супакой улетку гэтага году.

Трэба адзначыць таксама й выступы тых франтаўскіх дзеячаў, якія зрабілі важкі ўклад у гуртаваньне нацыянальнага мала-дзёвага руху: Вячаслава Сіўчыка, Лявона Баршчэўскага й Вінцука Вячоркі. Атмасфэру сьвяточнасьці ўзьняў сваёй прамовай сын выдатнага беларускага патрыёта й палітыка паваеннага часу Аўген Калубовіч.

Усіх дэлегатаў з цэнтральнае часткі Беларусі хвалявалі праблемы, што тычацца да разьвіцьця маладзёвай арганізацыі БНФ у рэгіёнах. Цікавыя інфармацыі данесьлі да ўдзельнікаў Сойму лідары маладзёвых суполак з Магілёва й Гародні, іншых куткоў Беларусі. Сярод іх вызначу даклады Сяржука Паўленкі, Алеся Асіпцова, Эдуарда Янчэўскага.

Асноўныя падзеі Устаноўчага Сойму "Маладога Фронту" разгарнуліся пасьля абеду. Пачаліся гучныя дэбаты з-за прапановаў пра зьмены ў праэкт Статуту, распрацава-нага Аргкамітэтам "Маладога Фронту". Але самыя гарачыя спрэчкі адбываліся падчас абмеркаваньня пабудовы інстытуту старшынства ў арганізацыі. Нажаль, "малада-франтаўцам" не ўдалося пазбыцца ўнутрыфракцыйных непаразуменьняў. Нарэшце шляхам галасаваньня выявілася перавага на карысьць прапановы Аргкамітэту Устаноўчага Сойму на чале з Андрэям Пятровым. Ейны сэнс у тым, каб на пэўны час, магчыма да наступнага Сойму, былі б абраныя тры сустаршыні "Маладога Фронту". Частка дэлегатаў Сойму на чале з сябрам Аргкамітэту Віталём Рымашэўскім прапанавала свае кандыдатуры на пасады сустаршыняў арганізацыі. Цікава, што тры з пяці асобаў адразу ўзялі самаадвод. Гэтым можна канстатаваць няўзгодненыя дзеяньні групы сп.Рымашэўскага. Было падобна, што Юрась Лук'янаў і Віталь Рымашэўскі задумалі стварыць апазыцыю дзеля апазыцыі, бо ніякіх цьвёрдых абгрунтаваньняў сваім дзеяньням яны на Сойме не прадставілі. Пасьля доўгіх спрэчак шляхам галасаваньня былі выбраныя тры сустаршыні "Маладога Фронту": Павал Севярынец, Алесь Асіпцоў з Магілева дый Сяржук Паўленка з Горадні.

Хаця падчас Сойму не абыйшлося без гарачых спрэчак, але я ўпэўнены, што гэта не азмрочыць далейшых пэрспэктываў дзейнасьці новапаўсталае агульнабеларускае арганізацыі "Малады Фронт", бо ў нас яшчэ ўсё наперадзе. Таму цяпер трэба ўсьведаміць зьдзейсьненыя хібы, каб не дапусьціць іхняга разьвіцьця ў будучыні. Важна тое, каб мы заўсёды памяталі заслугі нашых продкаў дый бліжэйшых папярэднікаў, каб мы імкнуліся зрабіць больш, як удалося зрабіць ім, каб мы не забываліся пра адказнасьць, якая ляжыць на нашым пакаленьні за лёс Беларускага краю.

Жыве Беларусь!

*Раман Кавальчук,*
*Цімафей Дранчук*

Маладзёвы весьнік

Выходзіць з 1997 года
Заснавальнік "Малады фронт"
Адказны за макет і вёрстку Цімафей Дранчук
В.а. рэдактара Цімафей Дранчук
Наклад 199 асобнікаў
Тэл.\факс для кантактаў --- 2-33-50-12
Адказнасьць за матар`ял нясе аўтар
Спасылка на "Маладзёвы весьнік" пры перадруку абавязковая

Вялікі дзякуй за фотаздымкі сп. Карміліціну, сп. Чырыку, газэце "СВАБОДА"